**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.43, 21.32, 16.49;
Віцебск — 4.25, 21.30, 17.05;
Магілёў — 4.32, 21.21, 16.49;
Гомель — 4.37, 21.11, 16.34;
Гродна — 4.58, 21.47, 16.49;
Брэст — 5.09, 21.38, 16.29.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 1 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Кастуся, Алены, Міхаіла, Хведара;
Лешка, Клатыльды.

# ЗВЯЗДА

3 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
серада, № 110 (21888)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## ДЗЕМЯНЦЕЙ. КОЗЕЛ. ХТО НАСТУПНЫ?

**Зафіксаваны другі выпадак падпалу на лецішчах (дачах) кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь у раёне вёскі Прылукі паблізу Слуцкай шашы.**

**Першы, нагадаем, здарыўся каля месяца назад — тады згарэла лецішча былога Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Мікалая Дземянцея. А вечарам 29 мая такая ж доля напаткала лецішча намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне Аляксандра Козела, што знаходзіцца ў якіх-небудзь 300 метрах ад лецішча Мікалая Дземянцея.**

**Суседзі выклікалі пажарную ахову запозна — агонь ужо паспеў ахапіць увесь будынак... Па адной з версій, падпал учынілі падлеткі, якія займаюцца крадзяжамі.**

**БелаПАН.**

## І УКРАІНА МЁДАМ (ЦУКРАМ) ЗДАЕЦЦА

«Цукровая» праблема, калі не прыняць належных мер, можа аказацца яшчэ вастрэйшай. І калі раней у Гомельскай вобласці цукровыя буракі не вырошчвалі, а спадзяваліся на пастаўкі далёкай Кубы і блізкай сваячкі Украіны, дык зараз актыўна ўзяліся за ажыццяўленне рэспубліканскай комплекснай праграмы «Цукар».

Сёлета для гэтых мэт было закуплена 14 тон насення салодкіх каранёў і засеяна ім паўтары тысячы гектараў. У перспектыве намечана заняць пад гэту культуру 10 тысяч гектараў і давесці вытворчасць цукровых буракоў да 335 тысяч тон у год. Здаецца, тады не будзе праблем з салодкім.

Але ўжо на першых кроках праграмы ўзнікла нечаканая перашкода. У вобласці няма ніводнага цукровага завода, і гамяльчане звярнуліся ў іншыя вобласці рэспублікі з прапановай перапрацоўваць буракі. Але там паставілі ўмову — за кожную перапрацаваную тону назад у Гомель аддадуць толькі 25 кілаграмаў цукру. З гэтай прычыны абласны камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванню мае намер звярнуцца да ўкраінскіх заводаў.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## «Вы заслугоўваеце таго, каб заняць дастойнае месца на карце Еўропы»,

### — лічыць Мішэль Кінер, кіраўнік дэлегацыі з французскага горада Ліможа—пабрацімa Гродна

**Некалькі дзён госці з Францыі знаходзіліся ў горадзе над Нёманам. Характэрная дэталь: ужо 13 гадоў існуюць сяброўскія сувязі паміж Гродна і Ліможам. Але толькі на гэты раз справа, здаецца, нарэшце перайшла ад турыстычнага абмену высокапастаўленымі дэлегацыямі да канкрэтнага супрацоўніцтва. Прынамсі, толькі цяпер французы папрасілі перадаць ім адпаведную дакументацыю з шэрагу гродзенскіх прадпрыемстваў, каб вывучыць іх магчымасці і потым скантактавацца.**

На думку членаў французскай дэлегацыі, ёсць нядрэнныя перспектывы для супрацоўніцтва ў галіне керамічнай вытворчасці. Ёсць таксама ў іх жаданне наладзіць сувязі з пальчаткавай і абутковай фабрыкамі, з мастоўскімі дрэваапрацоўшчыкамі.

— Мы ўбачылі, што вашы прадпрыемствы маюць велізарны патэнцыял для развіцця ў будучым,— падкрэсліў Мішэль Кінер.— У Гродна вельмі выгаднае геаграфічнае становішча. У вас цудоўны шанц заняць дастойнае месца на карце Еўропы.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## АДЗІН «ЗАЯЦ» НА ДЗЕСЯЦЬ ЖЭТОНАЎ




**Стаміўшыся ад разлікаў, колькі сёння каштуе праезд у метро і колькі манет патрэбна, каб забяспечыць даўжэзную чаргу, Мінскі метрапалітэн зрабіў рашучы крок. На ўсіх станцыях нашы «драўляныя» і «звярыныя» разменьваюцца на жэтоны. Новая падземная «валюта» выраблена з пластмасы і мае надпіс па-руску «метрополитен». Магчыма, некалі мінскія падземныя магістралі дасягнуць радыусаў маскоўскага метро, але ж на сённяшні дзень надпіс на жэтоне не грэх было б зрабіць на беларускай мове. Да ведама фальшываманетчыкаў: падрабіць гэты просты з выгляду кругляшок немагчыма. Унутры жэтона схаваны металічны сакрэт. З дапамогай фотаапарата «ФЭД» (нездарма ён названы ў гонар прazарліўца Ф. Э. Дзяржынскага) мы зрабілі здымак гэтага «сакрэта» і прапануем паглядзець на нябачнае.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## РАДЫЁФАКТ

У Рыа-дэ-Жанейра адкрыўся унікальны «Сусветны форум у інтарэсах Зямлі». Канферэнцыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па навакольным асяроддзі і развіцці будзе першай у гісторыі, дзе плануецца даць старт прынцыпова новаму этапу доўгатэрміновага міжнароднага партнёрства ў апошнім дзесяцігоддзі XX і наступным стагоддзі. У канферэнцыі прымуць удзел 175 дзяржаў—членаў ААН. Дэлегацыю Беларусі ўзначальвае Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Да цяперашняй канферэнцыі падрыхтаваны нацыянальны даклад Беларусі, у якім узнімаюцца экалагічныя і медыцынскія праблемы Чарнобыля, забеспячэнне ядзернай і радыяцыйна-экалагічнай бяспекі.

***

**Сёння ў Мінску прадоўжыцца рабочая сустрэча старшынь вышэйшых арбітражных і гаспадарчых судоў Расіі, Беларусі, Узбекістана, Казахстана, Малдовы, Кыргызстана, Туркменістана.**

***

Брэст зноў вырашыў адкрыць рэчавы рынак, які не дзейнічаў каля трох гадоў. Раней па патрабаванню гараджан «усесаюзную таўкучку» ў прыгранічным горадзе закрылі. Лічылася, што яна стымулюе рост злачыннасці, прыносіць нямала іншых клопатаў. І вось рынак будзе зноў адкрыты на ранейшым месцы, крыху інакш будзе арганізаваны гандаль, узрасце кантроль за парадкам.

***

**Пры цяперашніх умовах эканомікі ўсё больш пацвярджаецца прыказка «Грошы не пахнуць». І не толькі сярод некаторых асоб, але і некаторых службаў. У пагоні за рублём даходзяць да абсурду. Напрыклад, калі вы захочаце атрымаць неабходную даведку на Бабруйскай чыгунцы па тэлефоне — вам яе не дадуць, а прапануюць паехаць за ёй у бюро даведак, а там за паслугу возьмуць тры рублі. А што калі прыклад з чыгуначнікаў возьмуць хуткая медыцынская дапамога, пажарная, міліцыя і іншыя службы?**

***

Міма білетных кас у кінатэатрах Пінска праходзяць цяпер юныя гледачы. І гэта, як кажуць, стала законам для ўсіх дзяўчынак і хлопчыкаў з мнагадзетных сем'яў. Сесія гарсавета прыняла для іх спецыяльнае рашэнне аб бясплатным наведванні кінатэатраў у час летніх канікулаў.



**Малое прадпрыемства «Агат» у Брэсце спецыялізуецца на ўстаноўцы і гарантыйным абслугоўванні тэлефонных аўтаматычных станцый тыпу «Інтэрфон-32». Яны разлічаны на 90 нумароў і карыстаюцца шырокім попытам у заказчыкаў. Сёлета ў горадзе ўстаноўлена ўжо 300 такіх тэлефонных станцый у офісах, гасцініцах, бальніцах, дачных пасёлках.**

**НА ЗДЫМКУ: супрацоўніца «Агата» Ларыса ІЛЬЮЧЫК дэманструе малагабарытную тэлефонную станцыю тыпу «Інтэрфон-32».**

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛТА).**

## СКАЎТЫ ПАЧЫНАЮЦЬ СА СПРЭЧАК

МІНСК. З рознагалоссяў пачала сваё існаванне арганізацыя беларускіх скаўтаў. Пасля рэгістрацыі ССБ (Саюз скаўтаў Беларусі) ад яго адгалінавалася група жадаючых пашырэння скаўтскіх традыцый, але толькі па нацыянальнай прыкмеце. У сваю чаргу ССБ, сабраўшыся на свой з'езд, вырашыў не адступаць ад лініі на прыцягненне ў арганізацыю дзяцей самых розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Хто мае рацыю — пакажа час.

## З ЭКАЛОГІЯЙ НЕ ЖАРТУЮЦЬ

**ЛУНІНЕЦ. Падатковая інспекцыя горада закрыла разліковыя рахункі мясцовага камбіната бытавога абслугоўвання і райсельбуда з-за няўплаты падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі. Справа ў тым, што ў сувязі з дзеючым заканадаўствам, прадпрыемства або арганізацыя, якая мае больш пяці аўтамашын, павінна выплачваць так званы падатак па экалогіі. Кіраўнікі лунінецкіх прадпрыемстваў гатовы заплаціць падатак, але рахункі будуць адкрыты толькі пасля таго, як пакараюць вінаватых у несвоечасовым яго ўнясенні.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# СЯДЗІМ НА НАФЦЕ ЦІ НА ПРЫНЦЫПАХ?

**Нафты і нафтапрадуктаў у рэспубліцы многа. Відаць, такая катэгарычная заява выкліча бурны ўсплёск эмоцый сярод стомленых пошукамі паліва і сыравіны хімікаў, энергетыкаў, транспартнікаў. І тым не менш, як сведчыць аналіз некалькіх апошніх таргоў Беларускай біржы нафтапрадуктаў і палімераў у Віцебску — ББНП, завозімага ёю тавару хопіць, каб перакрыць з лішкам узнікшы ў рэспубліцы дэфіцыт. Але купляюць нафтапрадукты малдаване, украінцы, прыбалты, свой жа брат расіянін. І толькі ў Беларусі купцоў не знаходзіцца.**

**Парадаксальная сітуацыя. Напомнім, што нашы нафтаперапрацоўчыя заводы ў Наваполацку і Мазыры загружаны цяпер прыкладна на 60 працэнтаў. У выніку яны трымаюць на паўгалодным пайку сваіх спажыўцоў, а тыя — сваіх. Аднак ніхто з іх таксама не паквапіўся на біржавы бензін, дызельнае паліва і іншыя нафтапрадукты. У чым жа прычына такога дружнага байкоту?**

—Я думаю, у інертнасці мыслення, — гаворыць прэзідэнт ББНП Валерый Арлоў. — А яшчэ ў няведанні магчымасцей біржы і ў недавер'і да новых рыначных структур. Хацелася б перш за ўсё дапамагчы сваёй рэспубліцы, хоць нам увогуле ўсё роўна, каму прадаваць тавар і з каго браць працэнты. Дарэчы, яны вельмі сходныя: 0,3 ад кошту здзелкі на нафтусырэц і 0,5 — за яе вытворныя. Але ці варта ў такім выпадку цягнуць іх за край свету, заказваць расійскаму ўраду ліцэнзіі на вываз нафтапрадуктаў з Расіі ў Беларусь? Раз дадуць упустую, два, а за трэцім разам наогул адмовяць.

Паліўна-энергетычныя праблемы нашай рэспублікі вядомыя. Вядомыя і псіхалагічныя бар'еры. Галоўны з іх — боязь біржавых цэн, хоць на самай справе яны аказаліся не такімі ўжо і высокімі. У сярэднім у рамках дзяржпаставак рэспубліка плаціць па 2.500 рублёў за тону нафты, мы прадаём па 3.600. Але ж была партыя і па 400 рублёў за тону, і прапануемая на абмен. Але не ідуць да нас, не бяруць і такую землякі, нягледзячы на ўнікальную магчымасць, якой няма ў многіх іншых рэспублік, —атрымліваць «чорнае золата» напрамую з месца здабычы ў Заходняй Сібіры, па нафтаправодзе.

Ходзяць чуткі, а некаторыя газеты ўжо і пісалі пра гэта, што беларускі ўрад мае намер закупіць частку энергарэсурсаў, якіх не хапае, на Блізкім Усходзе. Не ведаю, наколькі яны адпавядаюць ісціне, але калі гэта праўда, то логіка дзіўная. Атрымліваецца, што тры з палавінай тысячы рублёў, або 25 долараў (столькі ў пераліку на СКВ каштуе тона нашай нафты цяпер), шкада, а 180—190 рэальных долараў за тону блізкаўсходняй, якую яшчэ трэба даставіць сюды з неверагоднымі складанасцямі і мноствам перавалак, за грошы, быццам, і не лічацца.

**Для даведкі: ББНП — адна з самых юных у рэспубліцы. Сярод яе заснавальнікаў Сургуцкая таварна-сыравінная біржа, Беларуская чыгунка, Віцебскае аддзяленне Прыорбанка і Прамбудбанка рэспублікі. Таргі праводзіць штотыднёва з пачатку мая. Гарантуе пастаўку ў Беларусь да 300 тысяч тон нафты штотыднёва. Толькі ці возьмуць?**

— Ну што вы,—адказвае намеснік старшыні Дзяржкамнафтапрадуктаў Валерый Заранок.—Нам гэта не па кішэні. Нафтавых біржаў у Садружнасці некалькі, прапаноўвалі свой тавар і па 5, па 6 тысяч, часам і больш. Кошт нафтапрадуктаў і хімічных матэрыялаў з такой дарагой сыравіны падскочыць у некалькі разоў. Хто ж іх купіць, калі і пры цяперашніх, фіксаваных цэнах, гэта прадукцыя многім недаступная? Акрамя таго, дзейнічаючы праз біржы, прыйдзецца дабівацца перагляду ўстаноўленых міжрэспубліканскіх квот, згодна з якімі наша рэспубліка атрымлівае з Расіі 60 працэнтаў энергарэсурсаў па цвёрдых і адносна невысокіх цэнах — 400 рублёў за тону, а 40 — па дагаворных, у 5.500—5.800. Расійская Федэрацыя і сама сёння небагатая. Таму я не думаю, што атрымаць ліцэнзію, ажыццявіць іншыя фармальнасці такая ўжо простая справа, як здаецца.

Ёсць, вядома, і недавер'е. Нічога не маю асабіста супраць ББНП і ўсё ж заўважу, што ў гісторыі зусім яшчэ юнага біржавога руху ўжо ёсць прыклады, калі пакупнікам прадавалі не нафтапрадукты, якіх у рэальнасці аказвалася значна менш, чым выстаўлялася на таргах, а паветра. Паспрабуй потым атрымай тое, чаго няма. Тым не менш мы не байкатуем біржавыя структуры. Проста ў нас няма матэрыяльнай магчымасці выкарыстаць іх паслугі і маральнага права пагоршыць і без таго цяжкае эканамічнае становішча многіх вытворчасцей.

**Для даведкі: паводле падлікаў спецыялістаў, Расія вырабіць у гэтым годзе каля 350 мільёнаў тон умоўнага паліва, 200 мільёнаў з іх застанецца на ўласныя патрэбы, 70—90 мільёнаў вырашана экспартаваць, астатняе— для СНД. У дзяржавах Садружнасці працягвае развівацца тэндэнцыя да зніжэння здабычы энергарэсурсаў і вытворчасці неабходнага для гэтага абсталявання. Вельмі хутка зноў будуць павышацца да сусветнага ўзроўню цэны на энерганосьбіты. Прыпыніць гэты працэс валявым намаганнем, за кошт міжурадавай дагаворанасці, удасца толькі часова.**

У ходзе аналізу праблемы двойчы ўсплывала інфармацыя аб тым, што нейкая служба ў рэспубліцы нават падлічыла ўжо страты, нанесеныя нашай эканоміцы папярэднім ростам цэн на энерганосьбіты. Аўтараў даследаванняў і якіх-небудзь падрабязнасцей знайсці не ўдалося. Але практык, намеснік дырэктара па вытворчасці Мазырскага НПЗ Яраслаў Яцыў пацвердзіў гэта канкрэтнымі прыкладамі:

— Так, сыравіны не хапае, але ісці на біржу нам няма з чым. Завод ужо «сядзіць на картатэцы». Працей кажучы, стаў неплацежаздольным. З пачатку года Дзяржкамітэт па забеспячэнню нафтапрадуктамі не выплаціў нам звыш 2 мільярдаў рублёў, якія, у сваю чаргу, недаатрымаў са спажыўцоў прадукцыі, выпускаемай беларускімі прадпрыемствамі хіміі і нафтахіміі. Ім таксама няма чым плаціць. У вавёрчыным коле гонкі цэн апынуліся ўсе.

Дапусцім усё ж, што грошы нейкім чынам знойдуцца, каб купляць частку сыравіны даражэй. Тады завод будзе працаваць на поўную магутнасць, але са стратай для сябе. Цэны ж на нашу прадукцыю фіксаваныя, а пра вываз яе ў іншыя краіны па больш высокіх свабодных або дагаворных і думаць няма чаго. Ніхто не дазволіць пры такім вострым дэфіцыце ў сваёй рэспубліцы. Таму мы аддаём перавагу своеасабліваму бартэру. Набылі, напрыклад, у першым квартале 300 тысяч тон нафты у Малдове з дастаўкай у Мазыр. Перапрацавалі і частку прадукцыі, на суму сваіх затрат, згодна з дагаворам, пакінулі сабе. Яна ідзе і на продаж, і на іншыя абменныя аперацыі. Інакш немагчыма раздабыць патрэбнае абсталяванне і матэрыялы. Цяпер вядзём перагаворы на гэту ж тэму з масквічамі. Дзе яны ўзялі нафту, на якіх умовах і пачым, нас не датычыць. Галоўнае, што ў гэтым выпадку не трэба плаціць за сыравіну грошы, якіх у нас няма...

Здаецца, больш-менш праяснілася, на чым жа мы ўсё-такі сядзім — на мелі. І невядома, калі з яе знімемся. Ва ўсякім разе толькі пасля таго, як вырашыцца ў той ці іншы бок крызіс фінансавай і цэнаўтваральнай сістэм і пачне сціраецца штучная мяжа паміж дзяржаўным і недзяржаўным сектарамі эканомікі. Не нармальна ж, калі значную частку сыравіны, і не толькі для гэтай галіны, можна купіць толькі па свабодных цэнах, а прадаваць прадукцыю з яе толькі па фіксаваных. Тым не менш, у айчыннай эканоміцы такая практыка сустракаецца вельмі часта, ва ўсіх галінах і дзяржавах Садружнасці. Відаць, і сітуацыя, з якой сутыкнуліся біржавікі ББНП, не недарэчнасць, а заканамернасць: бачыць вока патэнцыяльных пакупнікоў нафтапрадуктаў, ды не па зубах яны ім.

**Для даведкі: на таргах у апошні тыдзень мая Беларуская біржа нафтапрадуктаў і палімераў дабілася сенсацыйнага поспеху, заключыўшы здзелак амаль на мільярд рублёў. На жаль, практычна ўвесь тавар пайшоў... назад у Расію. Факт гэты тлумачыцца вельмі проста: нашым суседзям цяпер значна выгадней купляць яго ў Беларусі, чым у сябе дома. Справа ў тым, што ў сярэдзіне месяца Барыс Ельцын падпісаў праект урадавай пастановы аб пяці-, шасціразовым павышэнні цэн на энерганосьбіты ў Расійскай Федэрацыі. Акрамя таго, гэты дакумент практычна забірае ў нафта-, газаздабываючых і перапрацоўчых прадпрыемстваў права рэалізоўваць 40 працэнтаў сваёй прадукцыі па свабодных цэнах. Страчваюць яго і мясцовыя расійскія ўлады, якім дазвалялася прадаваць па такіх цэнах 10 працэнтаў паліва, здабытага на іх тэрыторыі. У выніку рэальна пачалі рыхтавацца да чарговага павышэння цэн і тарыфаў і транспартнікі суседняй рэспублікі. У нашай жа на гэтых «франтах» пакуль без змен.**

Іменна пакуль. Спецыялісты не бяруцца прагназіраваць, як доўга цяперашнія цэны на нафту і нафтапрадукты на ББНП будуць заставацца такімі ж, па сутнасці справы льготнымі, як цяпер.

**Ганна ГЛАДЫШАВА,**
**кар. БЕЛТА.**

# Клін клінам выбіваюць,

## ці Навошта акцыянернае таварыства «Белаграпрамбіржа» заснавала свой гандлёвы дом

Буду шчырым. Першая рэакцыя ў мяне на гэту навіну была, як, пэўна, і ў большасці незадаволеных сённяшнім жыццём людзей: развялося гэтых біржаў, не пералічыць.

Цяпер вось гандлёвыя дамы арганізуюць. Вядома, з якой мэтай — каб большы прыбытак атрымліваць. Мала таго, што дзяржаўны гандаль здзекуецца з людзей як хоча...

Прыкладна ў такім «народным» настроі з'явіўся я да П. Смоліка, намесніка па эканоміцы старшыні праўлення «Белаграпрамбіржы», каб высветліць гэтае «навошта». Вяртаўся ад яго калі і не прыхільнікам гандлёвых дамоў, то ва ўсякім разе перакананым у іх карысці і неабходнасці.

Пётр Аляксандравіч у пэўнай ступені падзяляў мае абурэнне дзейнасцю шматлікіх арганізацый, якія з гонарам называюць сябе гучным словам «біржа». Ён так і сказаў:

—Сённяшнія нашы біржы — гэта пародыя на біржы ў агульнапрынятым сэнсе. Нідзе ў свеце, акрамя нас, вы не сустрэнеце на біржах таго, каб брокеры заключалі здзелкі па рэчах шырокага ўжытку, рознай там драбязе. За мяжой праз біржы праходзіць так званы класічны тавар: нафта, лес, збожжа, воўна, бавоўна і г. д. Тыя тавары, кошт якіх непасрэдна ўплывае потым на цану сотні тысяч іншых вырабаў. Прыйдзе час, калі і ў нас біржы будуць займацца сваёй справай, а гандлёвыя дамы—сваёй, — крыху ў акадэмічнай манеры выкладаў Смолік тэарэтычную частку стварэння «Белаграпрамбіржай» уласнага гандлёвага дома.

Што датычыцца практычнага боку, то тут ёсць шырокія планы. Шмат пра іх распаўсюджвацца не будзем (чым-чым, а планамі і праектамі, праграмамі, у тым ліку і харчовымі, мы ўсе даўно сытыя па горла), скажам толькі, што яны накіраваны на стварэнне структураў, паралельна існуючым, дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю.

Дом возьме на сябе забеспячэнне (з дастаўкай па ўказанаму адрасу, напрыклад, фермеру) усім неабходным: палівам, запчасткамі, сыравінай, угнаеннямі і г. д. за невялікія камісійныя. А таксама продаж прадукцыі сялянскіх гаспадарак, пастаўкі мяса, агародніны гарадскім сталовым, кафэ, рэстаранам незалежна ад формы іх уласнасці. Прычым своечасовасць і якасць паставак будуць гарантаваны. На гэта — галоўная стаўка, бо інакш завяваць давер тысяч і тысяч кліентаў, якія нацярпеліся ад падману, неабавязковасці, хамскага абслугоўвання, традыцыйнай сістэмы забеспячэння і гандлю, проста нельга.

У адрозненне ад біржы гандлёвы дом — гэта камерцыйная структура. Ён можа арганізоўваць аўкцыёны, выстаўкі-продажы, мець свае гандлёвыя базы, сховішчы, магазіны, іншую інфраструктуру.

І чым больш будзе падобных гандлёвых дамоў, тым менш застанецца ў рэспубліцы махляроў, якія няблага грэюць рукі на дэфіцыце. Бо гандлёваму дому вельмі нявыгадна ствараць штучны дэфіцыт, паколькі яго даходы будуць напрамую залежаць ад абароту тавараў. А таму яму мала карысці прытрымліваць тавар, узвінчваць цэны. Цэны ж будзе дыктаваць рынак. Рана ці позна ён прывядзе іх да той пазіцыі, калі яны будуць адпавядаць фінансавым магчымасцям сярэдняга спажыўца.

Каб стаць пастаянным кліентам нашага дома, трэба прайсці акрэдытацыю, невялічкую фармальнасць. Бо мы яшчэ, на жаль, не навучыліся працаваць выключна на даверы, а наш гандлёвы дом выступае ў ролі гаранта здзелак. Таму і неабходна пэўная страхоўка, — гаворыць Смолік. Ён працягвае:

— Штат дома ў параўнанні з гарадскім і абласнымі ўпраўленнямі гандлю — мізэрны. Мы набіраем толькі патрэбных нам спецыялістаў, напрыклад, у галіне маркетынгу для работы ў адпаведным цэнтры. Ствараецца юрыдычна-эканамічны дэпартамент.

— Што стрымлівае хутчэйшае станаўленне гандлёвых дамоў на Беларусі?

— Падатковы ўціск у першую чаргу, — катэгарычна адказвае Пётр Аляксандравіч. На гэту тэму ён таксама прачытаў сапраўдную лекцыю (відаць, набалела ў чалавека), з якой напрошваецца вывад: у такіх умовах нельга развівацца свабоднаму прадпрымальніцтву, новым камерцыйным структурам. Акрамя таго, не стымулююцца рост вытворчасці, пасрэдніцкая дзейнасць. Не спрыяюць станаўленню гандлёвых дамоў і адсутнасць валютнага заканадаўства, забароны на вываз пэўных груп тавараў. Пакуль гэтыя абмежаванні не будуць зняты, дарэмна разлічваць на таварную інтэрвенцыю ў рэспубліку.

Яшчэ доўга гаварыў мне Смолік аб праблемах і цяжкасцях, але закончыў аптымістычна: за гандлёвымі дамамі будучыня. І як клін клінам выбіваюць, так і новыя камерцыйныя структуры выцясняць карумпіраваныя дзяржаўныя гандлёвыя і забеспячэнскія арганізацыі.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Да нашых чытачоў

**Нягледзячы на павышэнне тарыфаў сувязі, цэн на паперу і друкарскія паслугі, рэдкалегія нашай газеты вырашыла не праводзіць перападпіскі. Паведамляем чытачам, што з 1 ліпеня г. г. па 1 студзеня 1993 года падпісная цана на газету «Звязда» (для новых падпісчыкаў):**

**НА ПАЎГОДА — 62 рублі 40 капеек;**
**НА ТРЫ МЕСЯЦЫ — 31 рубель 20 капеек;**
**НА МЕСЯЦ — 10 рублёў 40 капеек.**

**Усе прадпрыемствы сувязі праводзяць падпіску на газету БЕЗ АБМЕЖАВАННЯЎ.**

**Калектыў газеты дзякуе тым чытачам, якія, не зважаючы на ўзросшы кошт, дадаткова выпісалі «Звязду» ў бягучым годзе, — 1.472 чалавекі, адклаўшы набыццё самага неабходнага, аддалі перавагу роднаму слову, падтрымалі адзіную штодзённую нацыянальную газету матэрыяльна. Мы будзем рабіць усё, каб не страціць гэты давер чытача.**

Ф. СП-1

**АБОНЕМЕНТ** на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"** Количество комплектов **1**

на 1992 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия, инициалы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

ПВ | место | литер

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА** на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"**

| Стоимость | подписки | ____ руб. ____ коп. | Количество комплектов: | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | ____ руб. ____ коп. | | |

на 1992 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия инициалы)

